**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.37, 21.45, 17.08;
Віцебск — 4.19, 21.44, 17.25;
Магілёў — 4.27, 21.34, 17.07;
Гомель — 4.33, 21.22, 16.49;
Гродна — 4.54, 21.59, 17.05;
Брэст — 5.04, 21.50, 16.46.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя квадра 23 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Варфаламея, Варнавы, Яфрэма;
Яна.



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

24 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
серада, № 125 (21903)

## ВІЗІТ У ПОЛЬШЧУ

Афіцыяльная цырымонія сустрэчы беларускай дэлегацыі прайшла на пляцы каля Бельведэрскага палаца. Станіслава Шушкевіча вітаў прэзідэнт Польшчы Лех Валенса.

Гучаць Гімны Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча. Станіслаў Шушкевіч разам з Лехам Валенсам абыходзяць ганаровую варту Войска Польскага.

Пасля ўрачыстай сустрэчы пачынаюцца перагаворы адзін на адзін Станіслава Шушкевіча і Леха Валенсы. Затым яны пераходзяць у Зялёную залу, дзе ў размову падключаюцца члены беларускай дэлегацыі і прадстаўнікі кіраўніцтва Польшчы. Вынікам іх стала падпісанне «Дагавору паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве».

(БЕЛТА).

# ЗВАРОТ

## Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Дарагія суайчыннікі!

3 ліпеня 1944 года — адна з самых памятных дат у нашай гісторыі. 48 гадоў назад была вызвалена сталіца Рэспублікі Беларусь горад Мінск. Гэты дзень адзначаецца як свята вызвалення ўсёй беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, як сімвал подзвігу тых, хто адстойваў незалежнасць нашай шматпакутнай зямлі на фронце, у партызанскім атрадзе, у падполлі.

Свабода дасталася вельмі дарагой цаной — загінулі мільёны людзей, таму гэты дзень заўсёды адзначаецца і з радасцю, і са слязамі на вачах. Прайшло амаль паўвека, але па-ранейшаму ў сэрцах людскіх жывая памяць аб тых, хто не дажыў да перамогі.

Напярэдадні 48-й гадавіны вызвалення Беларусі мы звяртаемся да вас, грамадзяне незалежнай рэспублікі, да вас, народныя выбраннікі, хто прадстаўляе органы ўлады ўсіх узроўняў, да вас, кіраўнікі працоўных калектываў, да вас, прадстаўнікі маладога пакалення, з заклікам зберагчы добрыя традыцыі нашага народа. Мы выказваем надзею, што ў горадзе Мінску, гарадах і раёнах усёй рэспублікі пройдуць урачыстыя сходы, адбудуцца мітынгі, сустрэчы аднапалчан, воінаў і партызан. Упэўнены, што будзе арганізавана работа па добраўпарадкаванню помнікаў, мемарыяльных комплексаў, месцаў пахавання загінуўшых воінаў і партызан, мірнага насельніцтва, будуць ускладзены да гэтых святых месцаў вянкі і кветкі.

Аддаючы даніну памяці загінуўшым, усім ахвярам вайны, сардэчна і шчыра віншуем са святам былых салдат, партызан, падпольшчыкаў, усіх, хто перажыў жахі вайны. Ва ўмовах спаду вытворчасці, росту цэн многія з іх зведваюць зараз матэрыяльныя цяжкасці, і найпершы абавязак мясцовых органаў улады, кіраўнікоў працоўных калектываў—аказаць ім неабходную дапамогу. Мы перакананы, што лепшы час наступіць.

З надыходзячым святам!

З Днём вызвалення Рэспублікі Беларусь!

ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.

# Беларусь адчыняе дзверы ў еўрапейскі дом

**Як паведамлялася, з 16 па 21 чэрвеня ў Швейцарыі з дзелавым візітам знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Ф. Кебічам.**

Упершыню Жэнева прымала гасцей з Беларусі ў якасці прадстаўнікоў самастойнай, незалежнай дзяржавы. Сталіца Швейцарыі вядомая ў свеце і ў Еўропе як цэнтр міжнароднага палітычнага і эканамічнага жыцця. Тут знаходзіцца Палац нацый, функцыяніруе Еўрапейскае аддзяленне ААН, працуе Міжнародная арганізацыя працы (МАП). Сюды імкнуцца палітычныя і дзелавыя людзі з усяго свету, каб абмеркаваць бягучыя і перспектыўныя праблемы. Дзверы ў сусветную палітыку адкрываюцца ў Жэневе — такое няпісанае правіла. Іменна тут перш за ўсё павінны паказаць сябе, прайсці своеасаблівую прэм'еру дзяржавы і лідэры, якія імкнуцца далучыцца да сусветнага цывілізаванага супольніцтва.

Такім «выхадам у свет» і стала выступленне кіраўніка беларускага ўрада на пленарным пасяджэнні 79-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы. Напярэдадні ў жэнеўскім Палацы нацый В. Ф. Кебіча цёпла віталі генеральны дырэктар аддзялення ААН у Жэневе пан Бланка і генеральны дырэктар МАП пан Хансен. Адзначалася, што ўпершыню за ўсю гісторыю МАП з яе трыбуны перад сусветным супольніцтвам паўстане незалежная Рэспубліка Беларусь.

У ходзе гутаркі В. Ф. Кебіч, выказаўшы падзяку за аказаны высокі гонар выступіць на канферэнцыі, звярнуў увагу пана Хансена на дзве праблемы: выкарыстоўваючы шырокія магчымасці МАП, арганізаваць пастаянную кансультатыўную дапамогу рэспубліцы ў стварэнні рыначнай інфраструктуры, а таксама наладзіць праз сістэму інстытутаў МАП навучанне і падрыхтоўку спецыялістаў у галіне рыначнага кіравання. Генеральны дырэктар МАП пан Хансен з цікавасцю аднёсся да пастаўленых праблем і выказаў жаданне больш грунтоўна пазнаёміцца з нашай рэспублікай, яе гісторыяй і культурай.

Выступленне Старшыні Савета Міністраў В. Ф. Кебіча на пленарным пасяджэнні МАП выклікала самую добразычлівую рэакцыю залы. Прадстаўнікі розных краін, выстраіўшыся ў жывую чаргу, павіншавалі В. Ф. Кебіча, а ў яго асобе незалежную Беларусь з паспяховым прадстаўленнем перад сусветным супольніцтвам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# РОЗГАЛАС

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ: ЯКІМ БУДЗЕ ПЕРАХОД АД СЛОЎ ДА СПРАВЫ?

**Размоў аб прыватызацыі мы чуем шмат. А колькасць беларускіх прадпрыемстваў, чый працоўны калектыў праявіў настойлівасць і ўзяў прадпрыемства ў арэнду альбо ўжо выкупіў маёмасць, ператварыўшыся ў акцыянернае таварыства ці народнае прадпрыемства, — невялікая, усяго 117.**

**У асноўным гэта дробныя і сярэднія прадпрыемствы прамысловасці, будаўніцтва, сферы абслугоўвання.**

**У кошце маёмасці, якая падлягае прыватызацыі, іх удзельная вага складае 1,3 працэнта. Астатняе па-ранейшаму ў руках дзяржманаполій.**

Вось чаму народныя дэпутаты — члены Камісіі па эканамічнай рэформе, сабраўшыся на сваё чарговае пасяджэнне, галоўную ўвагу ўдзялілі падрыхтоўцы праектаў Законаў «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках у Рэспубліцы Беларусь». Як забяспечыць сацыяльную справядлівасць, каб бязвыплатна сваю долю дзяржаўнай уласнасці атрымалі не толькі члены працоўных калектываў прадпрыемстваў, а і прадстаўнікі сацыяльнай сферы — настаўнікі, урачы, працаўнікі культуры, навукі, а таксама ваеннаслужачыя, работнікі праваахоўных органаў і іншыя,—такая асноўная праблема, на якой акцэнтавалі ўвагу дэпутаты.

Якім павінен быць механізм рэалізацыі палажэнняў гэтых законаў? Як забяспечыць гарантыі кожнаму грамадзяніну, які атрымае чэкавую прыватызацыйную кніжку, распараджацца ёю як уласніку? Быць уласнікам — гэта значыць мець магчымасць па свайму жаданню замяніць яе на адпаведную суму акцый прадпрыемства і такім чынам стаць акцыянерам, каб атрымліваць дывідэнды, або рэалізаваць прыватызацыйную кніжку за грошы праз фондавую біржу, камерцыйны банк ці праз фонд прыватызацыі.

Гэтыя думкі выказалі старшыня камісіі Леанід Козік, намеснік старшыні Барыс Макейчанка, сакратар Віктар Алампіеў, члены камісіі Міхаіл Балоцін, Уладзімір Цялежнікаў, Павел Шкапіч, Генадзь Нікіцін.

Але погляды членаў камісіі разышліся з думкамі прадстаўнікоў Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю, якія, як і раней, выказваліся за тое, каб рух чэкавых прыватызацыйных кніжак адбываўся толькі праз Фонд прыватызацыі. Калі згадзіцца з такім падыходам, дык грамадзянін, які не хоча быць акцыянерам (напрыклад, пенсіянер), а жадае прадаць сваю чэкавую прыватызацыйную кніжку, павінен многія гады чакаць, калі Фонд прыватызацыі будзе мець сродкі, каб выкупіць яе ў яго. Дэпутаты адзначылі, што нельга дапусціць падыходы, пры якіх людзі не маглі б рэалізаваць свае правы.

**У. СТАЎСКІ,**
**загадчык сектара па пытаннях эканамічнай рэформы, плана і бюджэту Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## РАЯЦЦА ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ

ГРОДНА **(Б. Пракопчык).** З 16 па 19 чэрвеня тут праходзіла сустрэча банкаўскіх і біржавых дзеячаў Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Кыргызстана і Польшчы, арганізаваная Саюзам прадпрымальнікаў нашай рэспублікі. Абмяркоўваліся ўмовы і меры стымулявання дзелавой актыўнасці прадпрымальніцкіх структур, фарміравання адзінай дзелавой прасторы, супрацоўніцтва банкаў і біржаў краін СНД са сваімі партнёрамі ў Прыбалтыцы і Польшчы. У гэтых мэтах удзельнікі сустрэчы выказаліся за збліжэнне нарматыўна-заканадаўчых актаў дзяржаў Садружнасці. У сферы біржавай дзейнасці прызнана перспектыўным аб'яднанне і спецыялізацыя біржаў, рэкамендавана ў кожнай дзяржаве стварыць адну моцную, універсальную і сетку спецыялізаваных біржаў, арыентаваных на рэалізацыю прадукцыі, якая выпрацоўваецца ў гэтым рэгіёне.

Сустрэча пацвердзіла намер дзелавых колаў правадзіць актыўнае лабіраванне заканадаўчай улады, іх жаданне супрацоўнічаць з урадамі на раўнапраўнай аснове.



# Лес мой—лёс мой

**Вы толькі прыслухайцеся да імёнаў налібоцкіх рачулак: Сівічанка, Каменка, Волка. Вымаўляеш — нібы п'еш сівізну туманаў на паплавах, нібы ідзеш басанож па каменьчыках да крынічкі, нібы цікуеш за шэрым лясным гулякам у сховах старога ельніку.**

**Тут стагадовыя дрэвы сыходзяцца вершалінамі ў небе, а каранямі сваімі сплятаюцца ў глыбінях зямлі. Ці не гэтак жа і людзі, што жывуць на аддаленых хутарах? Родняць іх гэта зямля, пушча, блакітныя нябёсы над галавой.**

**— Фермер я заможны, дваццаць тысяч гектараў маю, — жартам прадстаўляе сваю лясную гаспадарку егер Леанід Робертавіч Юрэвіч.**

**— Служба ў мяне дзяржаўная, а хата лясная. Два кані маю — бензінавага і сапраўднага. Жыўнасці на падворку ўдосталь, пчолы за пуняй гудуць. Даглядаю свой зялёны аб'ект, а калі трэба — па радыётэлефоне дакладваю начальству.**

**— Ну, вы сапраўды, нібы той замежны фермер, нават радыёсувязь уласная, — падладжваюся да гаваркога субяседніка.**

**— А што, па-вашаму, «замежны»? Вы ўяўляеце, што яны там хлеб з двух бакоў маслам мажуць? Быў я нядаўна са сваім начальствам на Нямеччыне, службовую камандзіроўку меў. Сам пабачыў, як там людзі такой жа справай займаюцца. Ім таксама шчыраваць даводзіцца, бо чалавек у лесе паўсюдна патрэбен. Трэба ж камусьці гэта жывое характва абараняць. У адным толькі я пазайздросціў немцам. У іх закон забараняе курыць у лесе. Вось гэта закон! Вось гэта парадак!**

**Слухаеш Леаніда Робертавіча — не наслухаешся. Усё ў яго простае, зразумелае: і думкі і словы. На гэтай зямлі ён рос, тут набіраўся жыццёвай мудрасці. Сорак пяць гадоў у лесе працуе. Няхай толькі не здаецца вам, што слова «працуе» не стасуецца з «курортным» месцам жыхарства і службай. Ён егер, а гэта значыць, што вядомыя яму не толькі зялёныя сцежкі звяроў, але і крывавыя сляды браканьераў. Іншы на такой службе даўно б ужо надбаўку запрасіў за небяспеку. Ды і сама пушча вакол хаты не заўжды такая ласкавая, як у гэтыя цёплыя чэрвеньскія дні. Увосень тут ліўні сякуць па вокнах, узімку стынуць гурбы снегу пад сценамі...**

**— Я вам так скажу, — падсумаваў свой расказ Леанід Робертавіч.—Галоўнае ў любой працы, каб яна на табе не абарвалася. Сыны мае ў горадзе жывуць, бацькаву справу ім ужо не падтрымаць. У мясцовым паляўнічым заказніку людзей маладых таксама няшмат. Так што, хоць працуецца з душой, але на той жа самай душы неспакойна. Хіба вось унучак Антосік падрасце і дзедава месца зойме. Можа дачакаюся, а?**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**(Валожынскі раён).**



## ПАКУЛЬ СМАЖАНЫ ПЕВЕНЬ НЕ КЛЮНЕ?

**КОБРЫН. У пажарным парадку адзін з дапаможных цэхаў калгаса «Новы шлях» выконвае заказ на прыстасаванні сігналізацыі супраць угону калгаснай тэхнікі.**

**А паступіў заказ пасля таго, як у адну з начэй ад дома галоўнага інжынера гаспадаркі быў выкрадзены калгасны УАЗ-452...**

## БОЛЬШ ЭРАТЫЧНЫХ ФІЛЬМАЎ—МЕНШЫ ДЭФІЦЫТ БЮДЖЭТУ

**МІНСК. На сесіі гарадскога Савета народных дэпутатаў начальнік фінансавага ўпраўлення Мінгарвыканкома Л. Якавенка паведаміла дэпутатам, што дэфіцыт гарадскога бюджэту зараз складае ні многа ні мала 400 мільёнаў рублёў.**

Далей дэпутаты абмяркоўвалі мясцовыя падаткі і зборы. Так, плануецца ўвесці збор за прадастаўленне права гандлю і абмену тавараў на рэчавых рынках сталіцы Беларусі ў памеры 20 рублёў з фізічных і юрыдычных асоб, за паслугі ў гасцініцах і рэстаранах вышэйшага разраду — 5 працэнтаў ад сумы аказваемых паслуг, за карыстанне ўсялякага роду павільёнамі, кіёскамі, гандлёвымі памяшканнямі і г. д. — 1.000 рублёў у месяц. А вось за паказ эратычных фільмаў трэба будзе пазбавіцца 10 працэнтаў прыбытку.

# Выступленне

## Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

# В. Ф. Кебіча

## на 79-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы

Пан Старшыня!

Паважаныя дамы і панове!

Мне аказаны вялікі гонар прадставіць з гэтай высокай трыбуны 79-й сесіі Міжнароднай канферэнцыі працы маю краіну, новую суверэнную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь, якая выбрала дэмакратычны шлях развіцця. Тым больш, што амаль за саракагадовы перыяд удзелу Беларусі ў дзейнасці МАП кіраўнік урада рэспублікі выступае з гэтай трыбуны ўпершыню. Дзякую Вам, пан Старшыня.

Дазвольце павіншаваць вас, пан Старшыня, віцэ-старшыняў з выбраннем на адказныя пасады.

Упэўнены, што ваша майстэрства дыпламатыі і прафесіяналізм дапамогуць знайсці неабходныя кампрамісы і паспяхова завяршыць работу сесіі.

Асабліва хацелася б выдзеліць актуальнасць і значнасць дакладаў «Дэмакратызацыя і МАП», а таксама «Адаптацыя і развіццё людскіх рэсурсаў». Яны вызначаюцца не толькі важнасцю праблем, але і філасофскай глыбінёй іх асэнсавання і вывадамі. Мы, як і Вы, пан Генеральны дырэктар, іменна з дэмакратыяй звязваем прагрэс нашай краіны, рэалізацыю надзей майго народа на лепшую будучыню.

Дазвольце, пан Генеральны дырэктар, павіншаваць вас з дасягнутымі поспехамі.

Цяперашняя сесія праходзіць у перыяд, які несумненна ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва як эпоха ліквідацыі таталітарных рэжымаў, спынення халоднай вайны і канфрантацыі, набыцця многімі краінамі суверэнітэту, свабоды і незалежнасці.

Два гады назад Рэспубліка Беларусь дэкларавала свой дзяржаўны суверэнітэт. Да яго беларускі народ прыйшоў рэдкім па трагізму гістарычным шляхам. На працягу стагоддзяў мая радзіма, ні на каго не нападаючы, але, знаходзячыся на геаграфічным і гістарычным раздарожжы, нярэдка станавілася арэнай спустошальных ваенных сутыкненняў. Вось чаму ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце дакладна сфармулявана мэта: зрабіць рэспубліку нейтральнай дзяржавай, а яе тэрыторыю — бяз'ядзернай зонай. І да гэтай мэты мы ідзём няўхільна.

Становячыся на шлях самастойнага развіцця, мы пацвердзілі сваю прыхільнасць да прынцыпаў Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых міжнародных актаў, якія закранаюць грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя і культурныя правы.

Далучэнне рэспублікі да агульнаеўрапейскага працэсу мы расцэньваем як важнейшы этап нашага вяртання ў сям'ю еўрапейскіх народаў.

Паважаныя дамы і панове!

Парламент і ўрад Рэспублікі Беларусь зыходзяць з таго, што базіснай асновай дэмакратыі і дэмакратызацыі з'яўляецца рыначная эканоміка, не сумяшчальная з каманднымі метадамі кіравання. І на гэты шлях мы сталі цвёрда і паслядоўна. Ужо створаны зыходныя прававыя і арганізацыйныя асновы сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Прыняты адпаведныя законы. Паслядоўна рэалізуецца ідэя прававой дзяржавы, падзелу ўлад і ўдасканалення выканаўчых органаў.

Павінен адзначыць, што ў нас, як і ў іншых краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, пераход да рынку ідзе вельмі складана і супярэчліва. Найбольшыя цяжкасці ўзнікаюць пры правядзенні прыватызацыі, барацьбы з манапалізмам, стабілізацыі грашова-фінансавай сістэмы. Многа праблем звязана з тым, што рубель пакуль што застаецца неканверсуемым, пры гэтым штучна створаны дэфіцыт грашовай масы, вялікі ўнутраны і знешні дзяржаўны доўг, які правакуе дэфіцыт бюджэту і інфляцыю.

Наша становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што мы засталіся па сутнасці адзін на адзін з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, а таксама атрыманай у спадчыну ад мінулага часу структурай народнай гаспадаркі з празмерна высокай доляй галін ваенна-прамысловага комплексу.

Тым не менш урад мае як доўгатэрміновую, так і кароткатэрміновую праграмы выхаду з крызісу.

У рамках кароткатэрміновай праграмы мы маем намер у самы бліжэйшы час пры дапамозе ўдасканалення гаспадарчых сувязей, матывацыйнага механізма, канверсіі, умацавання грашовай адзінкі, ва ўзаемадзеянні з зарубежнымі партнёрамі пераадолець спад вытворчасці.

У рамках доўгатэрміновай перспектывы прадугледжваецца ажыццявіць структурную перабудову нашай эканомікі з інтэграцыяй яе ў сусветную сістэму, правесці прыватызацыю, надаць цывілізаваныя формы і істотна расшырыць сферу прадпрымальніцкай дзейнасці і забяспечыць павышэнне ўзроўню жыцця народа.

Адна з найбольш складаных задач у рэалізацыі ўказаных праграм — дабіцца іх падтрымкі народам на аснове кампрамісаў і згоды розных палітычных плыняў і партый. Пры гэтым трэба пераадолець псіхалогію ўраўняльнасці, якая культывавалася гадамі, бо і да гэтага часу амаль палавіна даходаў нашых людзей фарміруецца незалежна ад канкрэтных вынікаў працы.

Вось чаму праблему карэннага ўдасканалення размеркавальных адносін урад Беларусі лічыў і лічыць адной з найбольш важных. Тут мы паслядоўна вырашаем тры ўзаемазвязаныя задачы.

Па-першае, радыкальна рэфармуем аплату працы, адмовіўшыся ад цэнтралізаванага ўстанаўлення памераў і ўзроўняў аплаты, перадаўшы вырашэнне гэтых пытанняў самім прадпрыемствам у асобе прадстаўнікоў працоўных і работадаўцаў. Але наша дзяржава патрабуе ад работадаўцаў, і гэта замацавана заканадаўствам, захавання гарантаванага мінімуму аплаты працы, роўнай аплаты за роўную працу, стварэння і захавання належных умоў і працягласці працы.

Па-другое, ажыццяўленне рэфармацыі ўсёй сферы сацыяльных паслуг і механізмаў іх забеспячэння шляхам прадастаўлення ўсіх гэтых паслуг не па прынцыпу ўраўняльнага размеркавання, а ў прамой залежнасці ад асабістага працоўнага ўдзелу. Тым самым мы імкнёмся пакончыць з сацыяльным паразітызмам і забяспечыць сацыяльную справядлівасць.

Па-трэцяе, урад добра разумее, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, мы не можам ігнараваць сацыяльную абарону найбольш неабароненых груп насельніцтва (беспрацоўныя, жанчыны, моладзь, асобы пажылога ўзросту, непрацаздольныя), паколькі тут на карту ставяцца мэты і сэнс дэмакратыі.

Гэта патрабуе прынцыповай перабудовы ўсёй сістэмы сацыяльнага забеспячэння і страхавання. Першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. Функцыяніруе служба занятасці. Створаны Пенсіённы фонд. Праводзяцца трохбаковыя кансультацыі, хоць станаўленне сацыяльнага партнёрства толькі-толькі зараджаецца. У цэлым урад рэспублікі імкнецца вырашаць найбольш вострыя праблемы, якія закранаюць інтарэсы большасці насельніцтва рэспублікі, на аснове дыялога. Гэта ў вядомай ступені садзейнічае таму, што сёння абстаноўка ў нас найбольш стабільная і трывалая ва ўсіх адносінах.

Разам з рэфармаваннем размеркавальных адносін і ў мэтах іх замацавання нам неабходна сфарміраваць зусім новыя інстытуцыйныя структуры. Мы маем намер узмацніць ролю дзяржавы ў правядзенні палітыкі сацыяльнага страхавання на трохбаковай аснове. Мы спадзяёмся на дапамогу і падтрымку МАП у рэалізацыі ўсіх гэтых вельмі актуальных задач.

Ужо можна з задавальненнем канстатаваць, што ўзровень нашых адносін з МАП значна ўзбагаціўся. І я хачу яшчэ раз пацвердзіць, што Рэспубліка Беларусь будзе шырока прымяняць каштоўны для нас вопыт гэтай міжнароднай арганізацыі.

У сувязі з гэтым я хацеў бы выказаць меркаванне, а, магчыма, нават просьбу такога парадку. Паколькі спецыяльная сесія Савета кіраўнікоў Праграмы развіцця ААН прыняла рашэнне аб пераводзе Рэспублікі Беларусь з разраду краін-донараў у разрад краін-атрымальніц тэхнічнай дапамогі ААН, то для нас было б вельмі карысным, каб МАП палічыла магчымым аказаць нам канкрэтную дапамогу ў рэалізацыі комплексу сумесных праектаў па ажыццяўленню эканамічных рэформ у рэспубліцы.

Пан Старшыня! Высокая ўспрымальнасць Міжнароднай арганізацыі працы да палітычных і эканамічных змяненняў, якія адбываюцца ў свеце, дазваляе МАП пастаянна ўдасканальваць сваю дзейнасць, распрацоўваць новыя канструктыўныя ініцыятывы і тым самым выступаць магутнай прыцягальнай сілай для краін і народаў. Я хацеў бы ў сувязі з гэтым павіншаваць дэлегацыі ўсіх краін, якія сталі новымі членамі МАП.

У заключэнне, пан Старшыня, я хацеў бы яшчэ раз выказаць поўную сваю павагу да Міжнароднай арганізацыі працы і пацвердзіць нашу гатоўнасць рабіць усё неабходнае для развіцця канструктыўнага супрацоўніцтва з гэтай арганізацыяй.

Дзякую за ўвагу.

**Жэнева, 17 чэрвеня 1992 г.**

# РОЗГАЛАС

## РАСКЛАДАЙЦЕ КУПАЛЛЯ АГОНЬ!

**Па каталіцкаму календару сёння на Беларусі адзначаецца адно з найбольш старажытных і самых прыгожых народных свят—Купалле. Яно прыпадае на перыяд летняга сонцастаяння і пад рознымі назвамі вядомае многім еўрапейскім народам. У суседняй Латвіі, напрыклад, бліжэйшыя тры дні будуць нават нерабочымі.**

У старажытных беларускіх граматах Купалле ўзгадваецца яшчэ ў XII стагоддзі.

23 чэрвеня жанчыны збіралі лекавыя травы і, каб надаць ім цудадзейную моц, спявалі купальскія песні. Надвячоркам моладзь выпраўлялася на загадзя выбранае месца — на выган, высокі бераг ракі, раскладвалася вялікае вогнішча, высока на жэрдцы паднімалі прасмоленае кола.

Вакол вогнішча вадзіліся карагоды, найбольш смелыя скакалі праз агонь, дзяўчаты і хлопцы перакідваліся праз яго вянкамі. Старыя людзі расказвалі пра розныя здарэнні, паданні.

Самая паэтычная і рамантычная з іх — легенда пра папараць-кветку, якая цвіце раз у год якраз у гэту ноч.

Дзяўчаты варажылі пра будучае замужжа, кідалі ў ваду вянкі.

Усе разам ганялі «ведзьму», якая, як лічылася, у гэтую ноч адбірала ў кароў малако. На раніцу грамадой ішлі купацца, сустракаць усход сонца. Паводле старажытных паданняў, у гэтую ноч звяры, птушкі і дрэвы маглі перагаворвацца між сабой.

24 чэрвеня — Іаан Прадцеча (Хрысціцель), якога на Беларусі называюць Іванам Купалам.

## І З БЗВ — АГУЛЬНАЯ МОВА

Армія—не рэч для расцягвання па розных ідэалагічных кутках. Таму вельмі важна, каб у воінскіх калектывах зацвярджаўся патрыятызм аднаго колеру — дзяржаўнага.

Менавіта аб гэтым ішла размова на сустрэчы кіраўніцтва Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь з членамі Выканаўчага Савета Беларускага згуртавання ваеннаслужачых.

## СПАТКАННЕ Ў ГЕРВЯТАХ

19—20 чэрвеня ў Гервятах Астравецкага раёна адбылося афіцыяльнае спатканне гісторыкаў Беларусі і Літвы, названае «Беларуска-літоўскі стол, прысвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму». Арганізатарамі і ініцыятарамі спаткання выступілі Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, інстытуты гісторыі акадэмій навук Беларусі і Літвы, аддзел культуры Астравецкага райвыканкома, Беларускі народны фронт і літоўскі «Саюдзіс». Прысутнічалі кіраўнікі гэтых арганізацый, гісторыкі, археолагі, філолагі, лінгвісты, гісторыкі літаратуры.

Фундатарамі «круглага стала» сталі доктар Анджэй Цэханавецкі (Лондан), Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Йорк), Беларускі фонд культуры, калгас «Радзіма» (Гервяты).

Пасля таго як Літва і Беларусь сталі незалежнымі дзяржавамі, узнікла неабходнасць сістэматызаваць сваю гістарычную навуку, пазбавіцца ад ідэалагічных напластаванняў, фальсіфікацый перыяду камунізму і скарэкціраваць ацэнкі і погляды на агульную гісторыю дзвюх суверэнных краін.

Спатканне адбывалася ў выключна цёплай і сяброўскай атмасферы ўзаемаразумення і павагі. Абмеркаванне агульных праблем гісторыі Вялікага Княства завяршылася прыняццем выніковага дакумента — «Паведамлення», прынятага ўдзельнікамі «круглага стала».

**Зянон ПАЗНЯК.**

## Беларусь адчыняе дзверы ў еўрапейскі дом

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Значнае месца ў праграме знаходжання ўрадавай дэлегацыі ў Швейцарыі занялі кантакты з прадстаўнікамі дзелавых колаў. Грунтоўная размова адбылася на сустрэчы прэм'ер-міністра рэспублікі з членамі савета Міжнароднага фонду прадпрымальнікаў Жэневы ў час наведання вядомай электроннай карпарацыі «Дыжытал эквіпмэнт».

Выключную цікавасць выклікалі ў членаў дэлегацыі прапановы міжнароднай карпарацыі «Нестле», якая прадставіла рад праектаў рэарганізацыі прамысловасці па вытворчасці прадуктаў харчавання.

Аб магчымых напрамках супрацоўніцтва ў справе навучання рыначнаму менеджменту маладых прадпрымальнікаў з Беларусі гаварыў Старшыня Савета Міністраў пры наведанні Міжнароднага інстытута кіравання і развіцця ў Лазане.

Фіналам дзелавых сустрэч і гутарак у Швейцарыі стаў удзел беларускай дэлегацыі ў рабоце ўсееўрапейскага форуму «Еўрапейскі дом: рэальнасць і перспектывы», які адбыўся ў горадзе Кран-Мантана. Форум — традыцыйнае мерапрыемства, якое штогод праводзіцца спецыяльным усееўрапейскім фондам, што аб'ядноўвае вядомых палітычных і дзелавых людзей Еўропы. На форум у Кран-Мантану прыбылі лідэры ўрадаў, а таксама кіраўнікі рада еўрапейскіх дзяржаў, краін СНД, прадстаўнікі буйнога бізнесу, вядомыя ў мінулым палітычныя дзеячы.

Якой быць Еўропе ў бліжэйшай будучыні? Змяненні ў былым СССР кардынальна мяняюць у тым ліку і лёс Еўрапейскага кантынента. Аб гэтых і іншых праблемах зацікаўлена дыскуціравалі ўдзельнікі форуму. На пленарным пасяджэнні выступіў В. Ф. Кебіч. Каменціруючы яго выступленне, друк адзначыў, што Беларусь хутчэй за іншыя дзяржавы СНД адчыняе дзверы ў еўрапейскі дом дзякуючы сваёй стабільнасці і ўменню спакойна, але няўхільна ісці па шляху рэформ.

В. Ф. Кебіч у час работы форуму сустрэўся з шэрагам кіраўнікоў і іншых высокіх службовых асоб еўрапейскіх дзяржаў. Адбыліся таксама карысныя перагаворы з буйнымі бізнесменамі, якія прымалі ўдзел у пасяджэннях форуму. У прайшоўшых мерапрыемствах і сустрэчах прынялі ўдзел міністр замежных спраў Беларусі П. К. Краўчанка, намеснік старшыні Кантрольнай палаты рэспублікі В. І. Радомскі, іншыя афіцыяльныя асобы.

(БЕЛТА).

## СПОВЕДЗЬ... ПА ТЭЛЕФОНЕ

**ПІНСК. Такую магчымасць прадаставіў пінчанам выканком гарадскога Савета, заснаваўшы службу даверу. Цяпер кожны гараджанін, які стаў ахвярай стрэсу ці атрымаў якую-небудзь маральную траўму, можа па тэлефоне пракансультавацца з псіхолагам, педагогам, проста бывалым чалавекам.**



## «ВЯСЁЛКА» З ЖАМЧУЖНАГА

**Светлыя і самабытныя мелодыі, якія выконвае фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Вясёлка» з пасёлка Жамчужны Баранавіцкага раёна. Зусім нядаўна, але адразу смела і па-дзіцячаму шчыра заявіў аб сабе гэты калектыў. Нараджэннем жа сваім ён абавязаны выкладчыку мясцовай школы Сяргею Вітальевічу Логінаву. Таленавіты музыкант, тонкі знаўца мясцовых народных традыцый і звычаяў, ён і дзяцей прывабіў ідэяй адраджэння і захавання мелодый роднага краю. Нямала папрацаваў Логінаў над тым, каб адрадзіць і абнавіць старадаўнія музычныя інструменты. Калі бяруць дзеці ў рукі свістулькі, дзеравяшкі, трашчоткі, выконваемыя мелодыі набываюць арыгінальную гукавую палітру і сапраўды народнае гучанне.**

**«Вясёлка» пакарае сэрцы тых, хто хоць аднойчы пачуе россып яе напеваў. Запрошана яна і на прэстыжны Сусветны фестываль дзіцячай фальклорнай творчасці, які ў адпаведнасці з рашэннем ЮНЕСКО ўпершыню праводзіцца ў гэтым годзе ў Чэха-Славакіі.**

**НА ЗДЫМКУ: як і шмат гадоў назад...**

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА. (БЕЛТА).**

## БЯРОЗАЎСКІЯ НАВІНЫ

**У суботу ў Бярозе павінна адбыцца сапраўднае авіяцыйнае шоу. Лётчыкі-пілатажнікі авіяцыйнай часці, якой 29 чэрвеня спаўняецца 50 гадоў, са сваімі калегамі з Кубінкі будуць дэманстраваць адзіночныя палёты і вышэйшы групавы пілатаж. У праграме свята—парашутныя скачкі дэсантнікаў з акрабатыкай у паветры, а таксама паказ сучаснай авіятэхнікі, якая будзе на ўзбраенні будучай беларускай арміі.**

**Камандаванне часці спадзяецца, што на гэты авіяцыйны спектакль прыбудзе хто-небудзь і з кіраўніцтва РБ.**

***

**У калгасе-аграфірме «Малеч» хутка будзе сваё піва. І гэта не пустыя словы, бо ячмень ужо варыцца. Магчыма, лічаць калгасныя піавары, што іх прадукцыя будзе прадстаўлена і на свяце авіяцыйнай часці.**

## ДАЧАКАЮЦЦА, ШТО ЛЮДЗІ ПАЧНУЦЬ КУСАЦЬ САБАК

**ГРОДНА. Калі за мінулы год у горадзе за дапамогай пасля ўкусу сабакі звярнуліся 558 чалавек, то толькі за першы квартал гэтага такіх ахвяр ужо 88, ды яшчэ 127 чалавек пацярпелі ад нявысветленых жывёлін. Гарадскія ўлады пакуль што ніяк не рэагуюць на такое становішча спраў. Напэўна, яны прытрымліваюцца словаў вядомага газетнага магната Херста, які ў свой час сказаў: «Калі сабака пакусае чалавека, гэта нецікава, а вось калі чалавек пакусае сабаку...» Напэўна, каб гарвыканком навёў парадак, трэба каму-небудзь учапіцца зубамі ў сабачы хвост.**

## АЎТАМАБІЛЬ — НЕ РАСКОША?..

**МІНСК. Аўтааматары сталіцы сёння збіраюцца правесці агульнагарадскі мітынг пратэсту. Прычына яго—шматразова ўзрослыя цэны на стаянкі, гаражы, ахову ўласнага транспарту, іншыя праблемы. Напрыклад, за месца на ахоўваемай стаянцы трэба цяпер плаціць 200 рублёў у месяц, саміх стаянак катастрафічна не хапае, а месца для гаража і набыццё яго па даступнай цане даўно перайшлі ў разрад мар. Таму арганізацыйны камітэт заклікаў усіх зацікаўленых асоб сёння а палове сёмай сабрацца ў мікрараёне «Серабранка», каб вырашыць набалелыя пытанні.**

**Па іроніі лёсу, у гэтыя ж дні па даручэнню Фрунзенскага райвыканкома Мінска акцыянернае таварыства «Промінвест» будзе праводзіць конкурсны продаж дваццаці незанятых гаражоў, стартавы кошт якіх для фізічных асоб—130 тысяч рублёў, для юрыдычных—150 тысяч. Такія грошы простаму аўтааматару, мабыць, і не сніліся.**



## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### АДЧУВАЕЦЦА БЛІЗКАСЦЬ КІТАЯ

Адміністрацыя Новасібірскага навукова-даследчага электронна-тэхналагічнага інстытута вырашыла стымуляваць падаючую ў горадзе нараджальнасць вельмі арыгінальным спосабам. Інтэрнат тут прадастаўляецца толькі тым маладым сем'ям, якія ці ўжо маюць, ці збіраюцца завесці дзяцей. Прычым тэрмін цяжарнасці павінен поўнасцю выключаць магчымасць аборту.

### ХТО З'ЕЎ ЧЭМПІЁНА!

На харкаўскім стадыёне «Металіст» датэрмінова закончыўся сезон гонак беговых свіней. Справа ў тым, што нейкія зламыснікі, хутчэй за ўсё ўчарашнія балельшчыкі, укралі чацвёрку «чэмпіёнаў», а заадно прыхапілі і «алімпійскі рэзерв» — маленькіх парасят.

Што рабіць, калі ў магазінах мяса па шалёных цэнах!

### ДЛЯ АМАТАРАЎ НЛА

Свярдлоўскае абласное ўпраўленне Дзяржстраха ўвяло новы від страхавання: ад крадзяжу іншапланецянамі. Застрахавацца можна на любую суму і тэрмін. Умова адна: сваякі знікшага павінны прадставіць неабвержныя доказы таго, што ён выкрадзены прышэльцамі.

Цікава толькі, што з'яўляецца для Дзяржстраха неабвержным доказам: дастаткова гайкі ад касмічнага карабля ці неабходна даведка з пячаткай з іншай планеты.

### ПРАКУРОР ЗДЗІЎЛЯЕЦЦА...

Пракурор Цюменскай вобласці Віктар Багін узбудзіў крымінальную справу супраць кіраўніцтва абласнога тэлебачання. Справа ў тым, што яно паказала амерыканскі баявік «Пацалунак», у якім галоўны герой нецэнзурна выказваецца.

Усхваляваны пракурор завёў справу з фармулёўкай «за наўмыснае парушэнне грамадскага парадку».

Напэўна, пракурор даўно не размаўляў з нашымі дзецьмі і не ведае, што лаянка амерыканскага кінагероя для іх ужо даўно пройдзены этап.

### РАФАЭЛЬ ЗНАЙШОЎСЯ

У адным са старажытных замкаў Вялікабрытаніі знойдзена карціна Рафаэля «Мадонна з немаўлём», якая на працягу больш чым двух стагоддзяў лічылася бясследна знікшай. У свой час уладальнік замка набыў яе за 360 фунтаў стэрлінгаў, сёння яе рыначная цана — 300 мільёнаў фунтаў.

### ЧАЛАВЕК-АМФІБІЯ

Чалавек-амфібія зарэгістраваны ў айчыннай кнізе Гінеса. Масквічу Васю Рэзнікаву ўсяго адзін год і дзевяць месяцаў, аднак у басейне ён змог за 15 гадзін 23 мінуты праплысці без перапынку звыш 33 кіламетраў. Стан дзіцяці пасля заплыву быў цудоўным — ён сам вылез з вады і паабедаў сырам.

### ГАЗЕТА ДЛЯ БЕСПРАЦОЎНЫХ

У Екацярынбургу пачала распаўсюджвацца новая газета для беспрацоўных «Рынак працы». Паводле слоў рэдактара газеты Яўгеніі Млодзік, рэдакцыя разлічвае на поспех выдання, бо па прагнозах да канца года ў вобласці будзе 400—450 тысяч беспрацоўных. Газета стане для іх адначасова даведнікам і крыніцай інфармацыі.

**Па «Розгаласу» дзяжурылі: І. Карней, А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка, У. Здановіч.**
**Тэл. 32-44-02, 32-43-03.**

ПА ЧУТКАХ І НА САМАЙ СПРАВЕ

# Што здарылася з салігорскім дырэктарам?

**— Адкажыце, калі ласка, гэта праўда, што дырэктар Салігорскай трыкатажнай фабрыкі арыштаваны пры атрыманні хабару ў 200 тысяч рублёў?**

**— Па Салігорску ходзяць чуткі, што ў Мінску работнікамі міліцыі затрыманы дырэктар трыкатажнага камбіната. Многія гавораць, што тут дапушчана нейкая памылка. А як на самай справе?**

**(З ТЭЛЕФОННЫХ ЗВАНКОЎ У РЭДАКЦЫЮ).**

Штодзённа ў «Звязду» людзі звяртаюцца з самымі рознымі пытаннямі. Што датычыць вышэй прыведзеных, то, прызнацца, рэдакцыя не магла адразу даць на іх нейкага канкрэтнага адказу. Па-першае, мы самі ўпершыню з тэлефонных званкоў пачулі такую неардынарную навіну і сапраўды нічога не ведалі пра тое, што здарылася з кіраўніком аднаго з буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў Салігорска. А па-другое, і гэтыя пытанні-здагадкі, што ўзніклі нібыта паводле чутак, як кажуць, у нейкай ступені адно аднаму дыяметральна процілеглыя. І праўда, каму ж верыць?

Было вырашана ўдакладніць гэты не зусім просты факт на месцы, у Салігорску, у час камандзіроўкі, якая, дарэчы, якраз падаспела туды зусім з іншай мэтай.

Адзін з тутэйшых маіх субяседнікаў выклаў, на першы погляд, даволі дзіўную тэорыю. Маўляў, у нашым горадзе некаторыя любяць «перамываць» адзін аднаму косткі. Таму і запускаюць розныя плёткі. Калі ні пра каго нічога скандальнага не чуваць, то, бачыце, сумна, нецікава жыць.

Міжволі падумалася, што выпадак з дырэктарам таксама звычайная чарговая плётка, недарэчная байка. Але ці так гэта?

Вось што пры сустрэчах расказалі:

**Салігорскі міжрайпракурор Іосіф Іосіфавіч ЖЫБУЛЬ:** Аб тым, што ў Мінску затрымана дырэктар трыкатажнага камбіната Эмілія Залманаўна Абідзіентава, для мяне было поўнай нечаканасцю. А для горада гэта з'явілася наогул шокам. Асабліва для больш чым трохтысячнага калектыву прадпрыемства, якое яна шмат гадоў узначальвае. Чаму? Наколькі ведаю, для рабочых іх кіраўнік нямала зрабіла ў сацыяльным плане, і зарплата тут даволі высокая. На камбінаце цяпер проста баяцца, што без Абідзіентавай усё разваліцца, людзі застануцца без работы, што ў наш час асабліва пужае.

У падтрымку арыштаванай на камбінаце прайшоў сход. Збіраўся на сваё пасяджэнне таксама савет дырэктараў горада.

Разам з тым па горадзе папаўзлі чуткі, якія абрасталі рознымі небыліцамі, выдумкамі. Адна з іх такая, што, маўляў, нехта хоча дырэктара «выбіць» са службовага крэсла, каб заняць яе пасаду, вось і арганізавалі гэту «правакацыю».

Як работнік праваахоўнага органа хачу зазначыць, што пасля 10 дзён утрымання пад вартай Абідзіентавай абавязаны прад'явіць абвінавачванне. А яно павінна грунтавацца на доказах.

**Старшыня савета дырэктараў г. Салігорска, кіраўнік народнага прадпрыемства «Калінка» Васіль Якаўлевіч КАВАЛЕВІЧ:** Аб тым, што арыштавана Абідзіентава, я асабіста даведаўся ў Мінску. Быў вельмі здзіўлены і, шчыра скажу, нават не паверыў, што такое магло здарыцца. Чаму? Гадоў дзесяць сам працаваў на трыкатажным камбінаце і ведаў яго дырэктара як талковага кіраўніка. Ды і ў горадзе яна карысталася аўтарытэтам.

На пасяджэнні савета дырэктараў старшыня гарвыканкома М. Юрчык праінфармаваў аб тым, што здарылася. Затым было прынята рашэнне хадайнічаць перад пракуратурай г. Мінска аб змяненні меры стрымання дырэктару трыкатажнага камбіната Абідзіентавай Эміліі Залманаўне. Савет характарызуе Абідзіентаву як актыўнага, граматнага кіраўніка, які працуе на камбінаце з дня яго заснавання.

Зразумейце мяне правільна. Прынята такое рашэнне з гуманным намерам, улічваючы яе ўзрост, а не з нейкай мэтай апраўдаць, выгарадзіць.

**Намеснік начальніка Галоўнага следчага ўпраўлення Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Сцяпан Іванавіч МІХАЛЬЧУК:** Так, гэта праўда, што Э. Абідзіентава арыштавана. Яна затрымана 20 мая за атрыманне хабару ў буйным размеры. Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа і праводзіцца расследаванне.

Для змянення меры стрымання мы не знаходзім падстаў. Хоць, сапраўды, з такой просьбай звярнуўся калектыў трыкатажнага камбіната. Паступае нам нямала хадайніцтваў і ад іншых арганізацый, асоб. Безумоўна, усё прааналізуем, глыбока і дэталёва ўнікнем у сутнасць справы. І ў далейшым, магчыма, будуць улічаны ўзрост, здароўе і сямейнае становішча затрыманай. У бліжэйшы час яна будзе прадстаўлена спецыялістам, якія і вызначаць яе цяперашні стан здароўя.

Пакуль жа аб тым, каб вызваліць яе з-пад варты, узяўшы падпіску аб нявыездзе, не можа быць і гаворкі.

**— Чым гэта можна растлумачыць? Згодна з заканадаўствам, арыштаванаму павінна быць прад'яўлена абвінавачванне на працягу 10 сутак. Калі гэта не зроблена, чалавека трэба вызваляць з-пад варты і яшчэ прасіць прабачэння за дапушчаную недарэчнасць. Так? У даным выпадку мінула ўжо больш месяца...**

— Усё правільна, калі няма доказаў і нельга прад'явіць абвінавачванне. У тым уся і бяда, што такія доказы ёсць, і яны вельмі сур'ёзныя, важкія. Больш таго, у ходзе следства ўскрываюцца ўсё новыя факты, шырыцца іх геаграфія. Не выключана і тое, што гэта крымінальная справа з пракуратуры Мінска будзе перададзена ў рэспубліканскую.

Адным словам, следства працягваецца...

**Іван БРАЛКА,**
**спец. кар. «Звязды».**
**Салігорск—Мінск.**

## РАДЫЁ ФАКТ

**Савет Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі і прэзідыум Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі накіравалі сумесны зварот да кіраўнікоў урадаў СНД, чарговая сустрэча якіх, як вядома, адбудзецца 26 чэрвеня ў Мінску.**

**Звярнуцца да высокага сходу прымушаюць глыбокія крызісныя з'явы, трывога за будучыню нацыі, рэальная пагроза распаду вытворчага і навуковага патэнцыялу рэспублікі.**

**Прафсаюзы і асацыяцыя прамыслоўцаў лічаць неабходным прыняць шэраг мер, накіраваных на стабілізацыю эканомікі і прадухіленне далейшага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.**

***

Беларускі ўрад прыняў пастанову аб увядзенні банкаўскіх чэкавых кніжак. Мяркуецца, што яны дазволяць расшырыць сферу безнаяўнага грашовага абарачэння і спрасціць разлікі насельніцтва за тавары і паслугі.

Чэкавыя кніжкі будуць выдавацца жыхарам рэспублікі ўсімі ўстановамі банкаў і дзейнічаць толькі на яе тэрыторыі.

***

**177 выпускнікоў Львоўскага вышэйшага ваеннага вучылішча сталі першымі ўкраінскімі афіцэрамі, спецыяльна падрыхтаванымі для службы ў Нацыянальных узброеных сілах.**

**Раней у гэтым вучылішчы рыхтаваліся кадры палітработнікаў і ваенных журналістаў для Савецкай Арміі.**

***

Новыя мытныя правілы распрацоўваюцца ў нашай рэспубліцы. Да пачатку ліпеня яны будуць прадстаўлены ў Савет Міністраў, — сказаў у інтэрв'ю «Радыёфакту» першы намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь Пётр Крачко.

Імі, у прыватнасці, прадугледжана правядзенне сумеснага нагляду на граніцы беларускімі і польскімі мытнымі службамі.

Дакумент, які прадугледжвае абарону турыстаў ад рэкету ў Польшчы, прапанавала распрацаваць Міністэрству ўнутраных спраў упраўленне па замежнаму турызму Дзяржкамітэта па знешнеэканамічных сувязях Рэспублікі Беларусь. Пра гэта заявіў начальнік упраўлення Уладзімір Куранкоў.

***

**Урад Літвы прадаставіў магчымасць органам мясцовага самакіравання самім зацвярджаць цэны на вялікую колькасць тавараў. Розніца ў іх кошце атрымалася вялікая. Так, жытні хлеб у літоўскай сталіцы і ў Каўнасе каштуе 8 рублёў, а ў Шаўляі — 3 рублі, за чыстку мужчынскага касцюма ў Друскінінкаі даводзіцца плаціць 150 рублёў, у Шаўляі — у пяць разоў менш.**

***

Пры рай- і гарвыканкомах рэспублікі пачалі арганізоўвацца аддзелы па справах моладзі і рабоце з насельніцтвам па месцы жыхарства. Адбылася першая прэзентацыя такога аддзела ў Фрунзенскім райвыканкоме Мінска.

## НАДВОР'Е

**24 чэрвеня**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродна, Віцебску, Мінску, Магілёве — 16—18, Гомелі — 21—23, Брэсце — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак 25-га на большай частцы, 26-га па поўдню — дажджы. Тэмпература паветра 25-га ўначы — 9—14, удзень 15—20, 26-га ўначы—6—11, удзень— 17—22 градусы цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

# НАША ПЛАНЕТА— ЖЫВАЯ ІСТОТА

**ДА ТАКОЙ ВЫСНОВЫ ПРЫЙШЛА ГРУПА ВУЧОНЫХ ПАД КІРАЎНІЦТВАМ І. ЯНІЦКАГА**

Інстытут мінеральнай сыравіны, у якім працуе І. Яніцкі, да нядаўняга часу лічыўся сакрэтным. І. Яніцкі і група яго калег у гэтым інстытуце займаліся праблемай пошукаў месцанараджэння радыеактыўных металаў. Згодна з адной з гіпотэз, прыкметай месцанараджэння радыеактыўных металаў з'яўляецца скапленне прыроднага газу гелію ў зямной кары. Каб вызначыць месца канцэнтрацыі гелію, рабіліся спецыяльныя здымкі, якія і далі магчымасць пазнаць невядомыя раней заканамернасці ў будове зямной кары. Дзякуючы гэтаму стаў зразумелым механізм, што ляжыць у аснове шэрагу з'яў, якія вучоныя даўно назіралі, але растлумачыць не маглі.

Да такіх з'яў, напрыклад, адносяцца паводзіны надвор'я ў Маскве ў час жнівеньскага перавароту (1991 г.). У ноч на 21-е, калі танкі сталі падступаць да Белага дома, нечакана пачаўся лівень. Дождж стаяў суцэльнай сцяной, і цяжка было заўважыць, што адбываецца за два крокі ад цябе. Многія масквічы сцвярджалі, што ніколі не бачылі нічога падобнага. Гэта была рашаючая ноч перавароту, і дождж у многім дапамог вызначыць яго лёс. На наступны дзень на плошчы перад Домам урада сабраўся натоўп — людзі віншавалі адзін аднаго з перамогай дэмакратыі. Ярка свяціла сонца, над галавой не было ні воблачка — здавалася неверагодным, але ствараласся поўнае ўражанне, што надвор'е радуецца разам з усімі.

За месяц да жнівеньскіх падзей у «Литературной газете» быў апублікаваны артыкул, дзе прыводзіліся дзіўныя заканамернасці адносна стану грамадства і паводзін стыхіі. Як прыклады — землетрасенне ў Арменіі і нацыянальныя канфлікты ў гэтым рэгіёне, якія папярэднічалі яму; рэвалюцыя ў Румыніі і затым землетрасенне і г. д. Аўтар успамінаў таксама розныя прыклады з расійскай гісторыі, якія сведчылі аб тым, што існуе сувязь паміж унутраным станам людзей і падзеямі, што адбываюцца на Зямлі. Атрымлівалася — як толькі сацыяльныя катаклізмы ці хваляванні ахопліваюць вялікія масы людзей, гэта выліваецца праз некаторы час у стыхійнае бедства ці катастрофу.

Уласна, група вучоных пад кіраўніцтвам Яніцкага даўно заўважыла падобныя заканамернасці. Як было вядома і раней, розным аварыям і катастрофам часта папярэднічае магутны разбуральны працэс, які ахоплівае атмасферу, зямную кару, гідрасферу — словам, усё асяроддзе, а таксама палі — гравітацыйныя, акустычныя, геліевыя і г. д. Ён распаўсюджваецца не толькі на прыродныя сістэмы, але і на тое, што створана чалавекам: транспарт, сувязь, трубаправоды, будаўнічыя, інжынерныя збудаванні і, што ўжо зусім сур'ёзна, ваенныя арсеналы і атамныя электрастанцыі. Гэты працэс не быў прыкметным для звычайнага позірку, а рэгістраваўся спецыяльнымі прыборамі і станавіўся відавочным толькі ў той момант, калі разбуральная энергія выходзіла наверх у выглядзе катастрофы ці стыхійнага бедства. Гэта было падобна на хваробу, якая ахоплівае ўвесь арганізм чалавека, але становіцца яўнай, праяўляючыся ў выглядзе язвы ці нарыву ў самым слабым месцы — дзе тонка, там і рвецца.

Вучоныя спрабавалі прасачыць, у які момант і чаму нараджаецца гэты разбуральны працэс. Аказалася, што каталізатарам нярэдка з'яўляецца ўсплёск негатыўных эмоцый вялікай масы людзей, ад якога разбуральны працэс пачынае хвалямі распаўсюджвацца на ўсё навокал. Высветлілася, што Зямля чула рэагуе як на стан навакольнай касмічнай прасторы, так і на тое, што адбываецца на яе паверхні, гэта значыць у паводзінах людзей.

Аднак «рэакцыя ў адказ» Зямлі ў многіх выпадках не была механічнай, а ў значна большай ступені нагадвала ўчынак разумнай істоты. Так, пры аналізе катастроф у вучоных часам складвалася ўражанне, што падзеі, якія папярэднічалі ім, кімсьці старанна спланаваны. Цяпер Яніцкі ўпэўнены: многія катастрофы вызначаюцца асаблівым сэнсам. Ён мае на ўвазе, што адбываюцца яны для таго, каб прадухіліць катаклізмы глабальнага маштабу, прымусіць людзей спыніцца, падумаць і знайсці правільны шлях, калі памылку яшчэ можна выправіць. Яніцкі лічыць, напрыклад, што чарнобыльская катастрофа зусім не выпадковая — «яна выключыла магчымасць глабальнай тэрмаядзернай вайны». Яна прымусіла шырокія колы людзей ушчыльную заняцца праблемай бяспекі атамных станцый і зноў задумацца аб выніках ядзернай вайны.

Гіпотэзу таго, што Зямля з'яўляецца разумнай істотай, пацвярджалі і іншыя факты, сабраныя вучонымі. Напрыклад, яны пераканаліся ў тым, што правіла «вока за вока» ў адносінах да Зямлі дзейнічае далёка не заўсёды. Некаторыя тэрыторыі, напрыклад, на працягу пэўнага часу могуць як бы прыкрывацца ахоўным каўпаком, і разбуральны працэс будзе іх абыходзіць. Апошнім часам такім месцам з'яўлялася Масква. Стыхійныя бедствы, якія па ўсіх правілах традыцыйнай метэаралогіі павінны былі дасягнуць сталіцы, дайшоўшы да яе межаў, спыняліся, быццам перад нябачнай сцяной. Увесь час штосьці здаралася на подступах да Масквы, але сам горад, нягледзячы на тое, што тут кіпелі палітычныя страсці, заставаўся некранутым.

Вывад, які зрабілі вучоныя ў выніку ўсіх гэтых даследаванняў, гучыць як фантастыка. «Наша планета — жывая, разумная істота, здольная рэагаваць на дзеянні людзей», — заявіў на дыспуце, што адбыўся зімой гэтага года ў маскоўскім Доме вучоных, І. Яніцкі.

І яшчэ адзін вывад, зроблены вучонымі: не толькі паводзіны людзей уплываюць на тое, што адбываецца на Зямлі, але і ўсё, што адбываецца на Зямлі, уплывае на паводзіны людзей. Прычым калі ўздзеянне людзей на Зямлю дасягне крытычнай кропкі, гэтыя «арэлі» будуць расхістаны да мяжы. У такім выпадку, лічыць Яніцкі, мы ўсе станем ахвярай глабальнай катастрофы.

Такім чынам, даследаванні Яніцкага пацвердзілі тое, аб чым многія даўно здагадваліся: Зямля — жывая, разумная істота.

Але, мяркуючы па фактах, прааналізаваных вучонымі, адносіны чалавецтва з Зямлёй найбольш нагадваюць то затухаючы, то зноў успыхваючы няспынны сямейны скандал. Дзіця груба размаўляе з маці, усяляк крыўдзіць яе, але і яна — замест таго каб разабрацца, што адбываецца — даганяе дзіця і б'е яго. Адносіны ўсё далей і далей заходзяць у тупік.

Псіхолагі сцвярджаюць, што прычынай такіх узаемаадносін у сям'і нярэдка з'яўляецца негатыўны вопыт зносін, які, валодаючы ўласцівасцю з часам накоплівацца, усё больш засланяе сапраўдныя пачуцці.

Відаць, ва ўзаемаўплыве чалавецтва і Зямлі таксама прысутнічае негатыўны вопыт. Гэта вопыт не толькі апошніх пакаленняў, але і многіх пакаленняў людзей, якія жылі і паміралі, змагаючыся за сваё існаванне, — з прыродай, са стыхіямі, з Зямлёй. Дзе ўжо тут было думаць аб пачуццях!

Сёння на пытанне: «Люблю я Зямлю ці не?» я адназначна адказваю — «Не». Мае знаёмыя задалі сабе тое ж пытанне. І атрымалі такі ж адказ — «Не». Цікава, што адказала б на гэта пытанне Зямля?

Псіхолагі сцвярджаюць, што адносіны паміж людзьмі цяжка палепшыць адным толькі рашэннем не рабіць непрыемнасцей адзін аднаму. Хоць і гэта немалаважна. Калі аднавіць гармонію і адзінства на ўзроўні пачуццяў, пытання аб непрыемнасцях наогул не будзе. Дык, можа, настаў час звярнуцца за дапамогай да псіхолагаў, каб аднавіць нашы адносіны з маці па імені Зямля?

**Сяргей ПЯТРОЎ.**
**[Часопіс «Путь к себе»].**

